*Przesyłka opłacona ryczałtam.*

**Год II. Кастрычнік 1931 г. № 2 (5).**

Wilno Uniwersytecka d. n. 9

Przegląd Wileński

# Сьветач Беларусі




Цана нумару 35 гр.

Вільня.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны ў Вільні, Завальня вул. № 6—10.

ГОД II. КАСТРЫЧНІК 1931 г. № 2 (5).

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Летняя 12—3.

## Ц. Б. П. К. і Моладзь.

Зблiжаецца ўжо другі год, як Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт распачаў пляновую і арганізаваную барацьбу з русафільскімі тэндэнцыямі часткі нашых духаўнікоў, асабліва сярод займаючых кіраўнічыя становішчы, як благачынных і сяброў Кансысторыі, у межах Зах. Беларусі.

Акцыя беларусізацыі Царквы, распачатая, яшчэ за доўга да паўстаньня Камітэту бел. грамадзянствам і ўстановамі, абапёртая Камітэтам на грунце прынцыповых засноваў, была выклікана тым, што частка прав. духавенства ў Віл. Эпархіі зароўна як і кіраўніцтва апошняе, з дапамогай чорнасоценна прышлых расейскіх элемэнтаў, вяло пры помачы свайго становішча сыстэматычную русыфікацыю сваіх верных а грамадзянбеларускага Народу. Народ-жа наш, уцяміўшы добра, што праваслаўнасьць ня можа быць азначэньнем расейскасьці, як гэта ўрад расейскі практыкаваў да вайны, пачаў да работы сваіх духаўнікоў, за іх ролю палітычных агэнтаў адносіцца вельмі варожа, а ня могучы ніяк аддзяліць тае работы ад праводзячых яе асобаў пачаў варожа адносіцца да духаўніка а праз гэта і апатычна да жыцьця духоўнага і Царквы. Гэта-ж вельмі хутка спасьцяраглі апякуны бязьверра і прапагатары сэктанства, выкарыстоўвываючы гэтую сытуацыю дзеля павялічэньня сваіх радоў. Каб жа яшчэ больш пацягнуць за сабой народ, гэтыя мудрыя палітыкі ўсёцэла сталі на грунт беларускасьці. Іх агенты ў сваіх прамовах і навучаньнях пачалі выключна карыстацца беларускаю мовай. У Вільні гэтак мэтадысты заклалі нават інтэрнат для вучаніц беларускае гімназіі, пачалі выдаваць кніжкі ў мове беларускай, словам у праціўстаўленьне прав. сьвяшчэньнікам не забівалі беларускасьць а наадварот, усёцэла абапёрліся на ёй. Вынікі, зразумела, пачалі з гэтага атрымліваць вельмі багатыя. І вось, супроць усяго гэтага распачаў барацьбу Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт, жадаючы пры помачы абапёрця Царквы на грунце беларускасьці, раз запыніць разбураньне Яе духавенствам, якое з Царквы зрабіла аплот сваіх палітычных імкненьняў. Духавенства гэтае нічым не зьвязанае з нашым народам, духова зусім ім не апякуючыся, адносячыся да яго з пагардай, пазваляла сабе ў вачах яго на такі спосаб жыцьця і ўпрыемненьня вольных часоў, што народ на кожным кроку бачыў такія рэчы, якія яго зусім адпіхалі і ад духаўніка і ад Царквы.

І вось, калі супроць усяго гэтага запратэставаў Камітэт, тыя сьвяшчэньнікі і іх апякуны чорна-соценцы ўзьнялі супроць Камітэту і некаторых сяброў яго фармальную буру лаянак, маны і інсынуацыяў і іншага, могучага здэскрэдытаваць ідэю беларускасьці Царквы. Аднак гэтая нячыстасьць хутка задушылася ўласнаю нячыстасьцю а Камітэт замест здэскрэдытаваньня толькі набраў больш павагі, пацягнуў за сабою большую частку праваслаўнага грамадзянства, а нават і вечна запаленую і бурную моладзь.

Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт пачынае зьвяртацца з дакладным прадстаўленьнем вытварыўшаяся сытуацыі да Мітрапаліта Дзіаніса, падаючы пры гэтым спосабы найлепшага выхаду з яе. На вынікі гэтых дакладаў Камітэт усьцяж яшчэ церпяліва чакае, а навучаны рахаваць толькі на свае сілы, інтэнсыўна забраўся да работы, апіраючыся выключна на народ і тых, хто пачынаньні Камітэту зразумеў і належна ацаніў.

Ужо цяпер вынікі работы гэтае змушаюць Камітэт быць гордым — з ім сяньня ідзе большая частка бел. прав. грамадзянства а перадусім надзея Народу-Моладзь. Камітэт сяньня змушаны вельмі і вельмі лічыцца з нашай моладзю, каб не адарвацца ад народных гушчаў. Моладзь-жа, дзеля свaей адданасьці нашым сьвятым ідэям, змушае Камітэт ісьці на спатканьне і падзяляць тон гарачасьці яе і самаахвярнасьці, каб ня быць ад яе адарваным. Зразумела, гордасьць Народу, гэта гордасьць Камітэту і ён моладзі ні ў чым ня мае права адмовіць, бо-ж праз яе вусны прамаўляе гарачая любоў да Прадзедавай Веры і Бацькаўшчыны, бо-ж яна ўзрасла і захапілася ідэяй кінутай Камітэтам і гэты таму цяпер ня мае права ёй здрадзіць. Такім чынам барацьба Камітэтам ня была бязплоднай а дала ў найцяжэйшыя часы рады новых самаахвярных барацьбітаў, якія зьяўляюцца дла нас зарукай, што мы пераможам. Чыстасьць і правасьць душы гэтых барацьбітоў будуць тлумачаньнем і тону барацьбы, бо да гэтага і Камітэт і іх змусілі тыя, хто павінен быў у гэтым усім сказаць сваё дэцыдуючае слова, а гэтага чамусьці не зрабіў.

---

## *Глянь Божа...*

*Глянь Божа на нашу зямліцу,*
*Народ Беларускі ў няволі,*
*Што Вольнага Заўтра зарніцу*
*Чакае ўжо сотні год болей...*

*Глянь Божа, як слугі Тваіх рацэ*
*Хрыста для Хрыста расьпінаюць,*
*Жывуць, каб ніягоднасьць сшыраці*
*Законам Хрыста і Сінаю.*

*С. С.*

# Бязьверра.

**Папулярны нарыс.**

У сучасныя часы паваенныя, асабліва ў цяперашняй Маскоўшчыне, вельмі шырака пачаў разьвівацца атэізм ці інакш кажучы бязьверра. Савецкі ўрад дык нават стварыў цэлыя кадры адумысных агэнтаў і барацьбітоў дзеля змаганьня ў народзе рэлігійнасьці. Зачыняюцца там цэрквы і касьцёлы, над духавенствам жорстка зьдзекуюцца а гэта быцца за тое, што яно непатрэбна выкарыстоўвывае і дурманіць людзей. Паганяцца і прафануюцца ўсялякія сьвятасьці, адным словам, ідзе цэлая вайна, субсыд'яваная вялізарнымі сумамі чырвонцаў, з усім, што мае праяў пачытаньня і служэньня Іісьцінам Хрыстовым.

У нас праўда гэтага няма, але і тут бязьверра стала вельмі модным. Калі возьмем інтэлігэнцыю, дык яна да факту бязьверра быццам даходзіць ад вялікіх навук і пераканаwньня дзякуючы ім, што Бога няма. Масы народныя дык проста лічаць, без ніякіх аргумэнтаў навуковых, што маліся не маліся, а ўсё роўна Бог з неба хлеба ня скіне і што хай моляцца багатыя, бо яны маюць на гэта болей часу. Вось, менш больш тыя матывы, дзякуючы якім можна быццам і немаліцца і так добра жыць, як тыя, што моляцца Добра то добра, але і ня зусім гэта добра! Бо як сьвет сьветам, ні адна навука ня можа адкінуць боскасьці Хрыстовых Законаў і знайсьці тую першую прычыну, якая дала жыцьцё ўсяму, што мы бачым вакол сябе. Ні адна навука не патрапіла разгадаць і ашчупаць, што гэта за такі зьвер несьмяротная душа. Аж мы ведаем, што сяньняшняя навука зайшла гэтак далёка, што тое аб чым калісь пісалі і фантаз'явалі як аб нечым немагчымым у зьдзейсьненьні, выходзячым на за межы якой-бы то ня было магчымасьці, сяньня гэта ўсё, дзякуючы навуцэ, найзвычайнейшыя ў сьвеце рэчы, па якія ніхто ніхоча і ўвагі зьвяртаць. І вось гэтая навука ніякім чынам ня можа вытлумачыць першапрычыны і несьмяротную душу. Праўда, былі і гэткія мудрацы, а нават ёсьць і цяпер, што і гэта быццам сваім розумам асяглі. Аднак і іх тэорыі былі вельмі недоўгавечнымі! Хапіла толькі паступова ісьці за вышуканьнем першае прычыны і мы ізноў трапляли на такую прычыну, якую тлумачыць толькі рэлігія. Менш больш тое самае было і з пытаньнем аб душы. Словам, ізноў ўсё зводзілася да Найвышэйшае Істоты—Бога.

І мы бачым, што якія толькі ёсьць на сьвеце людзі, чы найбольш дзікія і адсталыя ад нашай культуры, чы найбольш асьвечаныя і разумныя, чы нават нішто і нікога ня прызнаючыя, на працягу ўсяе гісторыі людзкасьці заўсяды мелі і будуць мець Бога. Праўда, адны не маючыя шчасьця пазнаць сапраўднае істотнасьці Бога, як гэта мы маем, або другія ня хочучы прызнаць гэтае пазнаньне за правідловае, прадстаўлялі і разумелі Найвышэйшую Істоту розна і пасвойму. Адны Яе бачылі ў громе, другія ў сонцы, іншыя ізноў у нейкай жывёліне або жучку, а то і проста ў нейкім абрубку дрэва ці каменьчыку. Былі і ёсьць і гэткія, што адкідаючы боскасьць Хрыста як Бога выбіралі спасярод сябе, або памершых, пэўную адзінку, якую ўсхваляючы і лічылі за свайго бажка. Гэтак ня даўна, як падавала прэса, у сучаснай Расіі была недзе выкрыта пэўная сэкта, якая перад партрэтам Леніна паліла сьвечкі, пяяла песьні адумысныя і абавязкава за кожнай такой „службай" насьміхалалася над зачасу прыгатаваным да гэтага крыжам.

Вось і маем, над крыжом, сымболем Хрысьціянства глуміліся а палілі сьвечкі і „маліліся" перад Ленінам. Забаранілі там пачытаць Хрыста, зрабілі людзей бязбожнікамі, дык яны пачалі маліцца да Леніна. Ці інакш кажучы стварылі сваю „рэлігію". І гэта зразумела! Душа чалавечая, душа несьмяротная

даная Богам заўсяды тужыць за Ім і рвецца да Яго. Людзі хоць часам і ня хочуць Бога, але душа даная Богам імкнецца заўсяды да Яго. І таму, хоць жывучы пад гвалтам і ў спэцыяльна робленай цямноце духовай, людзі Бога шукаюць у кожнай магчымасьці. Бо душа чалавечая, праз сумленьне яго, змушае чалавека і падсказвае рабіць тое, што будзе сумленьнем ня мучанае, бязсьмертнай душой усрыманае як доказ нагароды па сьмерці ў быцьці з Богам. Якраз вось гэтае сумленьне і душа, з якімі каб праз сваю дзейнасьць ня мець клопату і рабіць тое, што толькі падабаецца, без аглядкі на бязсьмертнае быцьцё, што зьяўляецца вельмі цяжкім, бо зьвярыныя інстынкты чалавека прыямнейшыя і хутчэйшыя ў зьдзейсьненьні, якраз гэта і падсказывае чалавеку быць бязбожнікам. Тады можна і забіць чалавека, і зрабіць яму крыўду, і зьдзекавацца над ім, словам можна рабіць кожную нягоднасьць, бо няма душы, няма Бога і безсьмяротнага з ім быцьця а дзеля гэтага ні цяпер — ні пасьля ня трэба будзе ні перад кім адказываць за свае паступкі.

Але вось тут і бяда, бо калі хоць чалавек, каб ня быць мучаным сумленьнем і пагрозаю пакараньня за свае паступкі не цяпер то ў бязсьмертным быцьці з Богам, — і выракаецца Бога, то Бог аднак усё-ж астаецца Богам і кожны чалавек на апошнім судзе будзе адказваць за свае паступкі. Аб гэтым якраз найлепш сьведчыць тое, што чалавек гэтак стараецца ўгаварыць у сябе што Бога няма, падобна як хворы чалавек баючыся сьмерці ўсяляк сябе стараецца пацешыць у сваей няхворасьці. І як ад гэтага ўгавору нічога не пераіначываецца і сьмерць астаецца сьмерцю, так і ўцяканьне ад Бога нічога не зьменяе. Ад чаго чалавек са страхам уцякае, знача таго ён баіцца, а раз баіцца знача тое нешта ёсьць. І вось інтэлігэнцыя сучасная, ідучая за прыемнымі пацягамі зьвярыных інстынктаў, каб не затручываць сабе прыемнага жыцьця думкай і канечнасьцю адказу перад Бога за свае паступкі, стараецца навукаю Яго адкінуць.

Каб-жа яшчэ лепш апраўдаць сябе і даць разгон сваіму зьвярынству, дык выдумлівае розныя сэкты, абрады якіх патрабуюць распусту, зьдзічэласьць, і дзікія эмоцыі (як прыкл. цяпер выкрытыя у Фінляндыі сатаністы, быццам молячыся сатан !). Народ просты дык пацяшае сябе, што Бог хлеба не дасьць, што і бяз Бога будуць жыць так, як і іншыя. І вось, жыць то мы будзем, але што з гэтага жыцьця за карысьць? Прыкладам, жыве адзін чалавек здаровы а другі хворы, і калі гэты апошні ня лечыцца і пацяшае сябе, што будзе жыць як і здаровы то ён мае рацыю, але здаровы заўтра не павінен баяцца, а хворага заўтра можа спаткаць памершым, бо ў яго нутро было згніўшы, хоць ён усьцяж пацяшаў сябе, што яму гэтак добра як і здароваму і што лекі нічога не памогуць. І вось, адзін жыў і другі жыў, але першы захоўваючы сябе, сонца заўтрашняга дня ўбачыў, а другі зачыніў вочы ў сяньняшняй начной цямноце, пераносячы яе з сабой і ў магілу. Хто хоча мець гэтае сьветлае, апрамененае сонцам вечнае шчасьсьці заўтра, той павінен памятаць аб захаваньні сябе сяньня, той не павінен уцякаць і хавацца ад Бога, але іські за голасам душы на яго спатканьне, бо Ён можа гэтак адвярнуцца ад нас у Сьветлым Заўтра, як адвярнуўся ад Адама, калі той пачаў хавацца ад Яго.

С. С.

# Суд над студ. Сарокай.

У нацыянальным жыцьці кожнага Народу, асабліва ў пэрыяды яго адраджэньня, вялікую ролю адыгрывае Царква праз сваіх служыцеляў — духаўнікоў.

Не малаважную ролю адыгрывала духавенства і ў мінулым жыцьці беларускага Народу. У далёкай і слаўнай мінуўшчыне незалежнай Беларусі духавенства было нацыянальна і кроўна зьвязана з народам і таму роля яго, як духаўніка, была карысна — дадатняй. За часоў панаваньня на Бэларусі чужынцаў сюды панасылалася і чужое для народу духавенства, роля якога была ад'емнай у першую чаргу для справы рэлігійнай і нацыянальнай.

Чужое духавенства, як спадчыну расейскага ўраду, атрымаў беларускі Народ сяньня апынуўшыся пад Польшчай. Гадунцы і ідэолёгі, жудаснага і страшнага панаваньня Масквы над беларускім Народам, вазглаўляюць і цяпер кіраўніцтва духовага жыцьця праваслаўных беларусаў. Адносячыся з пагардаю да сваіх духовых дзяцей, да іх мовы, звычаяў і традыцыяў сучасныя духаўнікі аб дабры Народу ня дбаюць і ніякім уплывам на яго жыцьцё не карыстаюцца. У выніку такіх суадносін, паміж народам і духавенствам, творыцца бязбожжа, сэктанства, а то і проста хуліганства.

Занепакоеныя гэтым прадстаўнікі розных культурна-нацыянальных беларускіх арганізацыяў складалі адпаведным дух. уладам шматлікія мэмор'ялы, у якіх высьвятлялі небясьпеку такога стану.

Найболей варожая да беларускага Народу акцыя вялася сябрамі Віл. Кансысторыі, якія сваім захаваньнем і дзеяльнасьцю падтрымоўвываюць найбольш амаральныя адзінкі сярод духавенства. Аб кампрамітуючай дзеяльнасьці і захаваньні сяброў гэтае Кансысторыі даводзілася да ведама Вышэйшай Дух. Улады. На запросы апошняй сябры ўспомненыя высьвятлялі гэтую сытуацыю неправідлова, перакручываючы факты. Бачучы безкарыснасьць усяго гэтага студ. Сарока выпушчае аднаднёўку „Проч з ліхазельлем," у якой публічна абвесьціў частку абураючых фактаў, з дзеяльнасьці і захаваньня сяброў Віл. Кансысторыі і асобаў з імі злучаных, праз што ён спадзяваўся спыніць гэтую шкодную для Хрысьціянства і Народу, дзеяльнасьць. Але ня чулыя сябры Кансысторыі не зьвярнулі на гэта ўвагі.

Тады студ. Сарока выдае другую аднаднёўку „У імя праўды," у якой прыводзіць яшчэ больш фактаў і дамагаецца прыцягненьня рэдактара-выдаўцы аднаднёвак да судовай адказнасьці. Калі і на гэты раз сябры Кансысторыі рабілі толькі быццам стараньні кагосьці пацягнуць да судовае адказнасьці, студ. Сарока ў № 4 „Сьв. Беларусі" прызнаўся да рэдактарства і прасіў асобы чуючыяся несправядліва абражанымі пацягнуць яго да адказнасьці і тое прасіў ад судовых уладаў, праз што нарэшце змусіў сяброў Кансысторыі выззваць супроць сябе судовую справу.

Можна па рожнаму ацэніваць шлях барацьбы студ. Сарокі, але трэба адно памятаць, што шлях гэты прадыктаваны вялікім каханьнем гарачага сэрца да сваёй Царквы і Народу, самаахвярнай адданасьцю маладой душы дзеля яго дабра, а гэта ўсё вышэй умоўных паняцьцяў аб этыцэ.

Калі раней, можа хто і не падзеляў спосабаў барацьбы Сарокі, дык пасьля „нячуласьці" закранутых у аднаднёўках асобаў, хіба кожны павінен згадзіцца, што іншага спосабу барацьбы з імі і ня можа быць. І гэта зразумела частка бел. моладзі, горача кахаючая свой гаротны Народ, якая ў пададзеным Найсьв. арх. Алексадру мэмор'яле заявіла, што справа Сарокі — гэта агульная справа моладзі а на судзе дэманстрацыйна засыпала яго кветкамі. Такім чынам студ. Сарока не адзін. Вялічэзная адданасьць сваім сьвятым Ідэалам, моладзь нашую згуртавала да сьветлае перамогі ў адно суцэльнае. І мы верым, што яна дзеля захаваньня Хрысьціянства і незалежнага Я беларускага знойдзе і шлях і сілы. Р. Т.

# Неабходнасьць хрысьціянскага аб'яднаньня.

Зароўна як Праваслаўная Царква так і Каталіцкі Касьцёл за кожнаю службаю моляцца аб злучэньні Цэркваў. Між тым ужо каля тысячы гадоў вядзецца страшэнная барацьба паміж Праваслаў'ем і Каталіцтвам і ідэя злучэньня гэтых двох найбліжэйшых вызнаньняў спатыкае найвялікшую варожасьць з боку тых, хто павінен быў-бы найболей прыхільна спрычыняцца да гэтае сьвятое справы.

Справа злучэньня Праваслаўнай і Каталіцкай Цэркваў асабліва востра стаіць на нашых землях. Барацьба між імі балюча адбіваецца ў нас на сямейным, грамадзкім, нацыянальным і дзяржаўным жыцьці.

Жудасна падумаць, што самыя блізкія людзі з-за падзелу Хрысьціянства на Праваслаў'е і Каталіцтва ня толькі не залечываюць, а яшчэ балей растраўляюць супярэчаньні маліцьве абедзьвіх Цэркваў аб злучэньні і вучэньню Хрыста.

Ці Хрыстос, у імя Якога вядзецца барацьба супроць злучэньня, меў яе на мэце? Ці праз гэтую барацьбу выконываецца Яго сьвятая воля? Ці праз гэтую барацьбу мы не становімся падобнымі да тых, якіх Хрыстос выгнаў бізуном з Ерусалімскае Сьвятыні? Ці асобы, якія запамятавалі Яго запаведзі аб любві і ў імя сваіх асабістых інтарэсаў замест любві і згоды пашыраюць рэлігійную варожасьць між людзьмі, ці яны не належаць да катэгорыі тых спакусіцеляў, аб якіх Хрыстос сказаў, што лепш было-бы ім, каб павесілі сабе на шыю камень і ўтапіліся?

Ня гледзячы на антыхрысьціянскасьць і надзвычайную шкоднасьць барацьбы між Праваслаў'ем і Каталіцтвам яна ня толькі ня спыняецца а набірае што раз большае вастраты. Замест высілкаў на засыпку страшэннай прорвы-падзелу Цэркваў — пакладаюцца высілкі, каб гэтую прорву яшчэ болей паглыбіць. З гэтаю мэтай паўсталі нават адумысныя органы прэсы.

Як грыбы, паўстаюць розныя сэкты і на іх амаль не зьвяртаецца ўвагі, шырыцца індэфэрэнтызм, атэізм і звычайнае духовае хуліганства. Гэтае зьявішча таксама мала трывожыць кіраўнікоў духовага жыцьця людзей. Замест змаганьня супольнымі і злучанымі сіламі з вонкавым і прынцыповым ворагам, вядзецца бязупынная, страшная нутраная барацьба. Узаемна вышуківаюцца, не закранаючыя рэлігійнае душы, казуістычныя памылкі і недакладнасьці, і не звачваецца ўвагі, як гэтыя душы праз гэта зусім пазбаўляюцца духовае ежы і дзічэюць.

Было-бы несправядлівасьцю павялічываць значэньне працы саюза бязбожнікаў, прыпісываючы выключна ім пашырэньне сярод народных масаў бязьверра. Найдадатней падгатаваны і гатуецца грунт для працы бязбожнікаў тымі, якія моляцца аб злучэньні а ў сапраўднасьці ўзаемнымі абвінавачаньнямі вытраўляюць рэлігійныя пачуцьці ў народзе.

Спрэчкі аб дагматычных і кананічных рожнасьцях прадстаўнікоў двох Хрыстовых веравучэньняў завялі нас у тупік. Іх выкарыстоўвае нехта трэці.

Як адзіны Хрыстос, так адзінае яго вучэньне, і таму безадкладна павінен быць знойдзены адзіны шлях, па якому павінна ісьці хрысьціянская людзкасьць. Шлях гэты — Хрыстовая любоў і згода! Ніякая іншая праца ня можа быць так угоднай Усевышняму і карыснай для чалавецтва, як праца маючая на мэце згоду і лучнасьць між Хрысьціянскімі Цэрквамі.

Калі кіраўнікі духовым жыцьцём народаў не захочуць зразумець гэтага, народ адвернецца ад іх. За ўзаемнымі сваркамі яны ня хочуць бачыць, што пагражае занік агульна-хрысьціянскай культуры. Калі да гэтае пары духавенства ішло на перадзе, толькі вядучы нябожчыкаў на могілкі, дык цяпер яно павінна стаць сапраўдным духовым правадыром людзей жывых.

Жыцьцё хуткім тэмпам ідзе наперад і людзкасьць знойдзе сабе новых правадыроў, якія аб'яднаўшы яе на супольным хрысьціянскім грунце, будуць шчыра выхоўываць яе ў духу хрысьціянскае любві і згоды дзеля шчасьця ўсяго чалавецтва.

Дзеля дасягненьня гэтае богаслаўленыя хвіліны павінны быць паложаны высілкі ўсіх сапраўдных хрысьціян бяз розніцы вызнаньняў. Гэта загад сапраўднае Хрыстовасьці на сяньня і заўтра!!!

**Хрысьціянін.**

# З кім змагацца?

Нейкі шалёны лёс прасьледуе Беларускі Народ з дапамятных часоў. Ён і яго землі чамусьці заўсёды былі цэнтрам і аб'ектам барацьбы і сварак, якія няраз крывавымі разорамі значылі свае каляіны Хто не таптаў беларускія палеткі і душы, хто не паліў нашы гарады і ня зьдзекаваўся над нашым Народам? Жудасна робіцца толькі на самую думку аб гэтым! Бо-ж сапраўды, ці ёсьць дзе іншы край, які-бы гэтулькі выцярпеў за свае здольна мазолістыя рукі, за сваю крывавую і мазалістую працу, за прывязанасьць да сваіх палеткаў, за сваё імя і свае пачуцьці?! Хіба што нідзе ня знойдзецца больш жудасна-страшнае трагэдыі і нядолі. Возьмем дзеля прыкладу, хоць бы барацьбу на грунце рэлігійным у мінуўшчыне на нашых землях. Колькі праз яе наш Народ выцярпеў і перанёс! Колькі за яе праліта сьлёз і крыві! Колькі на аўтар яе прынесена ахвяр! І здавалася-бы, усё гэта павінна было хоць на гэтым грунце даць пэўныя акрэсьленыя вынікі запабягаючыя паўтарэньню адбыўшагася. Ды дзе там! Цяпер ізноў барацьба на грунце рэлігійным распачынаецца нанова. Праваслаўная Царква з Вуніяй распачынаюць барацьбу ізноў на Беларусі і за гаротны Народ Беларускі. І ізноў мы робімся цэнтрам і аб'ектам барацьбы

Паўстае пытаньне, як мы, праваслаўныя беларусы. павінны захавацца ў гэтай барацьбе? Бо ж трэба памятаць, што барацьбу павядуць асобы нам чужыя, неабапёртая на нашым народзе даваенная Царква і нічым ненавучаная польска-расейская Вунія.

І вось, адказваючы на гэтае пытаньне, мы павінны сабе ўсьведаміць, што ў першую чаргу мы мусім захаваць сябе самых перад тым, што нам пагражае найбольш. А пагражае нам шмат! За нашымі душамі ахоцяцца цэлыя легіёны піанэраў бязьверра, сэктанства і наагул, дзякуючы вытварыўшымся абставінам, маральнае анархіі і зьдзічэласьці. Мы якраз павінны перадусім праціўставіцца гэтаму, каб захаваць і сябе і сваю будучыню. Свае кволыя сілы мы мусім скіраваць толькі ў гэтым кірунку, бо і дагэтуль вунія змагаецца за вунійнасьць як такую, не зьвяртаючы ўвагі амаль ніякае на наш народ, а наадварот, апіраючыся на чужыя нам сілы, бо і дагэтуль Праваслаўе,часткаю яго духавенства, асабліва на нашых землях, уважаецца аплотам даваеншчыны.

Мы бачым, як востра выступаюць выходзячыя ў Варшаве „Слово" і „Воскресное Чтеніе" супроць вуніі і яе пашыральнікаў, хоць-жа гэтая вунія яшчэ ня так страшна пагражае нам, як бязьверра, сэктанства, распуста духовая і фізычная, пьянства, прафанацыя сьвятасьцяў, хціваcьць, інтрыганства і іншыя страшныя хваробы, разьядаючыя наш народ, няраз і духавенства, а ўсё адумысна на гэта настаўлены. І з усім гэтым успомненыя газэты амаль што зусім не змагаюцца. Чамусьці выступаецца ў першую чаргу толькі супроць вуніі,

хоць яна зусім не пагражае хрысьціянству! У сілу канечнасьці, пры ўсім гэтым, прыходзіцца гаварыць наагул аб захаваньні ў нас Хрысьціянства! І мы разумеем успомненыя газэты і іх барацьбу! Што каму да таго, што пагражае там нейкім беларусам! Кожнаму-ж свае плечы даражэй!!! І вось, у гэтым усім ня бачыцца тое, што нехта страшнейшы чым вунія, які наступае пагражаючы нам, пагражае і ім. Але мы гэта мусім бачыць і бачым, таму і рахуем выключна толькі на свае ўласныя сілы. Таму і стаўшы перад запытаньнем з кім змагацца, мы мусім сабе даць ясную справаздачу, хто ў першую чаргу і найбольш нам пагражае і хто сапраўды хоча шчыра ісьці з намі на барацьбу за Праўду і Законы Хрыстовы.

Зразумеўшы гэта мы не павінны дазволіць, каб нас рабілі аб'ектам сваёй барацьбы чужыя для нас сілы, бо гэта толькі яшчэ больш пагоршывае і так у нас страшную сытуацыю.

Мы мусім памятаць, што толькі тое, што будзе беларускім і беларусамі бараніцца — будзе нашым, нам не пагражаючым і нас забавязываючым да актыўнага выступленьня.

Усё іншае павінна прайсьці намі не падтрыманае, бо хто нас ігнаруе і недагледжывае, той не дабра нам жадае а напэўна нечага іншага і таму свае сілы мы павінны захаваць сабе, а ўжо нашая беларускасьць скажа нам калі і як зрабіць з іх належны ўжытак.

**М.**

# Агляд прэсы.

У выходзячым у Варшаве „Воскресном Чтеніи“ ў № 29 з дня 19.VII-31 г. у артыкуле „Печать о церковных делах“, падпісаным нейкім панам Vox (па лац. голас), была пададзена нататка аб папярэднім № нашае часопісі. Трэба памятаць, што „Воскр. Чтеніе“ афіцыяльны орган Мітраполіі! І вось, у тэй зацемцы, поўнай жоўці і злосьці, аўтар яе радуецца, што „Сьветач Беларусі“— журнальчык дзякаваць Богу не часта выходзіць. І ўважае, што такая публіцыстыка (мова аб „Сьв. Беларусі“) „варта толькі для двух установаў: вар'яцкага дому, альбо суда...“ і што фактычна па яго думцы дык найбольш адпавядае гэтаму апошняму. Маем там яшчэ і іншае, наказываючае „хрысьціянскасьць“ воблічча аўтара, але аб гэтым пагаворым калісь. Адносна прыведзенага, дык можам сказаць пану Vox'у, калі-бы мы таргавалі сваімі пачуцьцямі, або нягодна выкарыстоўвалі, на ўзор іншых, свае становішча, то напэўна „Сьветач Беларусі“ выходзіў-бы тры разы на дзень. Таму наша беднасьць, гэта толькі доказ нашае чысьціні, а нашая праца пры гэтай беднасьці — доказ нашае ахвярнасьці і адданасьці Царкве і бел. Народу. Калі-ж гэта не падабаецца пану Vox'у дык думаем, што нам гэта не павінна зашкодзіць. Нашая праца не падабаецца і массонам, і бязбожнікам, і маскоўскім чорносоценцам выміраючым, але мы на гэта ўвагі не зьвяртаем, а тое, што прапануе нам вар'яцкі дом ці асабліва суд, дык мы адкажам: судоў мы не баімся, бо мы чысты і самі, без дарады, імі карыстаемся і будзем карыстацца, а вар'яцкі дом, дык трэба думаць хутчэй падыйдзе тым, хто ад злосьці пеніцца і вар'яцее, ня можучы дараўняцца тэмпу жыцьця і гісторыі. Сапраўды нам здаецца, што голас „вапіючага“, калі на яго сьвет і людзі не зьвяртаюць увагі, гэта ўжо азнака хваробы мозгаў.

Чытачы нам выбачаць, што мы тут ужылі стыль Vox'аўскі; гэта - ж дзеля таго, каб ня быць незразумелым перад панам Vox'ам!

—§—

У № 27 „Беларускай Крыніцы“ з дн. 10 верасьня г. г. быў пададзены артыкул „Барацьба за Царкву“. Аўтар

яго, падпісаўшыйся псэўдонімам „Міранін-Беларус", вельмі ўдольна падыйшоў да пытаньня псыхолёгічнага зразуменьня нашым сялянствам адраджэньня нацыянальнага і рэлігійнага. Зразумела, справа вуніі гэта справа гістарычна ня новая, кананічна праваслаўнымі непадзеляемая і таму ў гэтай плошчы гаварыць ня прыходзіцца, але вось тое цікава, што ўсё часьцей і часьцей у нас пачынае зьвяртацца ўвага, асабліва народныі гушчамі, на тое, што вунія гэта пытаньне нацыянальна-рэлігійнае, справа агульна - беларуская. Гэта павінна быць шмат каму вельмі паказальным. І хоць сяньня яшчэ далёка да тае вуніі, аб якой думаў „Міранін-Беларус", то аднак у выпадку зьдзейсьненьня гэтага, трэба было-бы вельмі прызадумацца, асабліва нашым Выш. Дух. Уладам, што рабіць. Трэба памятаць, Народ наш, сяньня даведзены да адчаю дзейнасьцю бязбожнікаў і Мураўёска - рускімі слугамі Царквы і наагул вытварыўшыміся абставінамі, вельмі лёгка можа пакіравацца да таго, што хочуць яму даць на выключнае ўладаньне.

—§ -

У № 231 газэты віл. „Słowo" з дн. 8.X. г. г. знаходзім надзвычай цікавую зацемку пад загал. „Silva rerum." Аўтар яе, разглядаючы газэту „Jutrzenka Białostocka" (кастр. 1931 г.) і застанаўліваючыся на артыкуле кс. кан. Адама Абрамовіча, кажа: — „Ражучая, яскравая і брутальная маскоўшчына, якую так ахвотна культывуюць духаўнікі ўсходняга абраду, разіць кожнага чалавека знаючага наш Народ (Белар.), а таксама псыхіку Расейцаў"...і т. д. ці інакш кажучы, справа сучаснай вуніі ў руках людзей, якія запусьціўшы бароды і маскалячы народ думаюць звуніязаваць і беларусаў і расейцаў, справа гэтае вуніі зьяўляецца безкарысная ў выніку і адносна беларусаў і расейцаў.

І апошнім яна ня можа заімпанаваць і першых адстрашывае. Гэтыя думкі знаходзім і ў артыкуле ўспомненага кс. кан. Ад. Абрамовіча. Разглядаючы справу асеўшых у Альбэртыне айцоў-езуітаў, ён сьцьвярджае, што пачуючая там расейшчына ні дала пазытыўных вынікаў якраз дзякуючы гэтай расейшчыне. І што ён, паслугоўваючыся мовай беларускай пры пераводжаньні сялян у вунію патрапіў, у працягу двух гадоў павесьці за сабой 850 чалавек. „І чым? Папросту тлумачучы праваслаўным, часта па беларуску і т.д." Словам, толькі ўжо дзякуючы аднэй мове нашай ён меў позытыўныя вынікі. Яшчэ адзін прыклад, як досыць маюць беларусы маскоўшчыны, аб чым ужо нават і палякі кажуць, заўважыўшы гэта і як вельмі трэба на гэта зьвярнуць увагу. І сапраўды, толькі стаўшы на грунт душы народнае будзе можна захаваць існуючае, проціставіцца навале бязбожжа. Хто зацікаўлены ў праваслаўным беларусе, той напэўна гэта ўсё дацэніць і павінен дацавіць, калі хоча каб Народ наш стыхійна забраў голас. Палохацца беларускасьці ня прыходзіцца, бо гэта справа не асабістая і штучная, але справа жывога заўтра—будучыні.

---

*Праваслаўныя!*

*„Сьветач Беларусі" апякунца Вамі,*

*апякуйцеся і Вы ім!!!*

**Вольная трыбуна.**

# Калі і хто?

Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт з першых дзён свайго існаваньня зьвярнуўся да Мітраполіі, пры помачы адпаведных мэмар'ялаў, у якіх прадставіў тое страшнае становішча, у якім знаходзіцца Віл. Эпархія дзякуючы скандальнай дзейнасьці сяброў Віл. Эпарх. Кіраўніцтва і з прычыны гэтага шырака разьвіваючаяся сэктанства і бязьверра. Мэмар'ялы гэтыя зароўна як і розныя даклады былі перасыланы Камітэтам увесь час, і ня толькі Камітэтам, але і іншымі беларускімі ўстановамі і арганізацыямі. Апроч гэтага аб страшнай пагражаючай Праваслаў'ю і Хрысьціянсву, сытуацыі ў Віл. Эпархіі пісалася ўсьцяж на старонках „Сьветача Беларусі," на старонках беларускай і небеларускай прэсы, уэшце, як распачлівы крык душы па гэтаму пытаньню былі выданыя вядомыя ўсім аднаднёўкі — „Проч з ліхазельлем" і „У імя праўды." Як далейшы працяг гэтага зьвяртаньня ўвагі на пагражаючаю небясьпеку ў нас Хрысьціянству адбыўся вядомы працэс над студ. Сарокай. Аб тэй страшнай здэмаралізаванасьці сяброў з Консысторыі і некаторых духаўнікоў Эпархіі, урэшце сказаў на ўспомненым працэсе сам абаронца Кансысторыі адв. Андрэяў, увёсшы прапазыку каб расправа адбылася пры дзьвярох зачыненых, на што суд цалкам і згадзіўся.

І вось, ня гледзячы на ўсе пералічаныя вышэй факты зьвяртаньня ўвагі Мітраполіі на жудасную і страшную небязьпеку для Праваслаў'я ў Зах. Беларусі, Мітраполія, маючы яшчэ іншыя факты гэтага, маўчыць і то гэтак маўчыць, што часамі хочацца думаць страшныя рэчы і дапушчэньні. Хочам верыць што нарэшце калісь на гэта будзе зьвернена ўвага, але гэтае „калісь" павінна ўжо было наступіць даўно! Даўно пара ўжо была радыкальна перарэзаць і здушыць у зародку найстрашнейшы праяў збачэньня з дарогі Хрыстовага Веравучэньня, з дарогі агульналюдзкае маралі і этыкі, якое на грунце нажывы, п'янства, распусты духовай і фізычнай, бязпрынцыповасьці і хцівасьці скіроўвываецца сяньня ў непраходныя і бязвыходныя гушчары здэгэнэраваньня і зьдзічэласьці, у гушчары агульна і ўсебурачага бязьверра і анархіі. Пара ўжо даўно было зразумець, што тут ідзе барацьба не паасобных адзінак супроць Кушнёва, а барацьба ўсяго здарова думаючага і жывучага на прынцыпах Хрыстовае маралі бел. прав. грамадзянства з кушнёўшчынай наагул. Тут ідзе барацьба за правы на здарова-маральнае жыцьцё, ідзе барацьба высілкам адчаю і збалеласьці ўсяго народу з страшнымі веснікамі і піонэрамі сусьветнага хаосу.

Хай-жа адпаведныя чыньнікі нарэшце зразумеюць, што за ўсё гэта ня мы, а яны нясуць адказнасьць і маральную і праўную і што аб гэтым усім ведае заграніца!

Хай-жа нарэшце належныя чыньнікі зразумеюць, як не паважна выглядаюць ўсе іх лісты перасыланыя заграніцу з пратэстамі супроць уціску праваслаўных ў Польшчы, калі заграніца пры тым ад тых жа праваслаўных чуе пратэст супроць сваіх уласных духаўнікоў, гвалцячых сваім захаваньнем найпрымітыўнейшае паняцьце маралі! Хай-жа гэтыя чыньнікі нарэшце зразумеюць, што гэта адкрыты зьдзек над мільёнамі беларускага Народу, ламаньне законаў Тымчасовых Правілаў Царкоўных, рэгулюючых жыцьцё Царквы да гаспадарства. Успомнім толькі артыкулы 3 і 13 гэтых правілаў! Трэба-ж нарэшце даць сабе справаздачу ва ўсім гэтым і быць настолькі прынцыповым, каб усе анармальнасьці ў жыцьці Царквы адважна запыніць. Тымбольш, што на спатканьне гэтаму ідзе ўсё — беларускае праваслаўнае старэйшае грамадзянства і моладзь, найбольш шчырыя і са-

маахвярны — адданыя адзінкі і арганізацыі. Бо-ж нарэшце гэтая адданасьць і самаахвярнасьць, даходзячыя, сапраўды да апошніх межаў могуць скіравацца іншым шляхам у шуканьні спосабаў запыненьня ўзрастаючаму разбурэньню Хрыстовага веравучэньня і этыкі. Недапушчэньне да гэтага павінна ляжаць у інтэрасах адпаведных чыньнікаў, якія не павінны маўчаньнем ігнараваць крык роспачы беларуска-праваслаўнае душы мільённага народу. Бо народ гэны будзе змушаны запытаць, паміма сваёй волі, калі і хто хоча і прыдзе на падмогу яму дзеля захаваньня Хрыстовых Ісьцін у барацьбе з комуністычным бязьверрам і далейшымі гэтага консэквэнцыямі.

**Хаўрус**
**Беларуска-Праваслаўнай Моладзі.**

АД РЭДАКЦЫІ. Гэтым мусім перапрасіць Хаўрус Бел. Прав. Моладзі за зробленыя зьмягчэньні ў гэтым артыкуле з прычыны іх вельмі вострага тону. Мы дасканальна разумеем боль маладых душаў і падзяляем іх думкі, аднак мы былі прымушаны да гэтага з шмат прычын ад нас незалежных.

# „Слаўная" дзейнасьць.

## Ліст.

Грамадзявіну Сяргею Сарока.

Не адмоўце, калі ласка скарыстаць у „Сьветачу Беларусі," ці ў якой-небудзь іншай газэце мой наступны артыкул, перарабіўшы яго так, каб захаваць таямніцу майго аўтарства.

**Духовы маразм.**

З самага пачатку свае службы ў Віл. Эпархіі я ўважліва стаў знаёміцца з устанавіўшыміся звычаямі і людзьмі. Назначэньне мяне ў Віл. Эпархію паставіла мяне ў некалькі асаблівае палажэньне. Сябры Кансысторыі пачалі глядзець на мяне, як на асобу сабе роўную і шукаць са мною збліжэньня. Лічучы найлепшым сродкам дзеля збліжэньня гарэлку, прат. Кушнёў і арх. Піліп Марозаў пачалі запрашаць мяне і разам і паасобку на вечарынкі. Калі спачатку трохі яшчэ быццам і ўстыдаліся мяне дык пасьля п'яныя оргіі з кабетамі адбываліся ўжо бяз сораму з іх боку. Пры гэтым Марозаў сазнаваўся мне, што яму ўжо апрацівелі жонкі... (прозьвішча іх, як кабет ня хочымо падаваць, а датычыць гэта жонак двух тутэйшых пратаірэяў, прып. рэд.). Якая нізасьць і подласьць! Падпіўшы арх. Піліп Марозаў ня раз цынічна прызнаваўся, што ён ня верыць у Бога, што сорамна культурнаму чалавеку быць веруючым і т. д. Пару разоў заклікаў мяне на падобныя вечарынкі і прат. Тучэмскі. Мне ўсё абяцалі лепшы прыход. Частыя прыезды ў Вільню: аплата значнай часткі рахункаў за мой кошт пераканала мяне, што мяне выкарыстаўвываюць як дойную карову, кормячы толькі абяцанкамі. Вы ня можаце сабе прадставіць да чаго амаральны гэты людзі. Такія-жа куцяжы адбываліся і ў Дух. Манастыры. Ці-ж магчыма пасьля гэтага вымагаць нейкай маралі ад другіх сьвяшчэньнікаў. Паўстае сумнае пытаньне: куды такія духаўнікі завядуць народ?

З пашанаю (подпіс).

АД РЭДАКЦЫІ. Згодна з просьбай аўтара —сьвяшчэньніка з зразумелых прычынаў прозьвішча не падаемо. Успомнім толькі да ўсяго гэтага, што прат. Кушнёў зьяўляецца сябрам Кансысторыі і прэфэктам урадовых школаў сярэдніх, арх. Марозаў сябром і місыянэрам Віл. Эпархіі і прат. Тучэмскі рэктарам Дух. Сэмінарыі. Ці-ж пасьля ўсяго гэтага ня прыходзіцца задумацца, хто в о р а г хрысьціянства — успомненыя адзінкі ці імі змаганая вунія?

# Цікавая гісторыя.

Кіраваўшый па загаду Сьв. Сыноду Віл. Эпархіяй Найсьвяшчэншы Александр, архіяпіскап Палескі і Пінскі вызначыў на прыход у Віл. Эпархію аднаго сьвяшчэньніка. Сьвяшчэньнік гэты, атрымаўшы адпаведны загад аб тым ад Віленскай-жа Кансысторыі, пасьпяшыў зьліквідаваць сваю гаспадарку і разам з сям'ёй і маемасьцю выехаць у вызначаны яму прыход. Па дарозе заехаў ён ў Вільню за багаслаўленьнем да арх. Хвядоса. Замест багаслаўленьня арх. Хвядос сказаў сьвяшчэньніку, што прыхода яму не дае. Зьдзіўлены духаўнік паказвае арх. Хвядосу загад Віл. Кансысторыі аб сваім назначэньні, але арх. Хвядос адказаў яму: „Вы назначены арх. Александром, я его распоряженіи не прызнаю. Он поуменшал жалованье моим членом Консисторіи — я востановил им жалованье и вообще все распоряженія арх. Александра отменил." Сьвяшчэньнік тады зьвярнуў ўвагу на тое, што ён не прасіў гэтага пераводу ў вызначаны прыход, і што едучы туды ён толькі выконываў архірэйскі загад. Арх. Хвядос цьвярдзіў сваё, што ён загадаў арх. Александра ня прызнае.

Не памаглі і спасылкі сьвяшчэньніка на тое, што папярэдняе яго мейсца ўжо занята, што перавоз яго зусім зруйнаваў, што ў яго вучацца дзеці, што нарэшце праз гэта вытварылася сытуацыя змушаючая яго іосьці на вуліцу жабраваць. Арх. Хвядос аднак быў пры сваім і адказаў — „до ваших детей мне нет дела, можете итти на улицу."

Давелаўшыся аб такіх зьдзеках з боку арх. Хвядоса над сьвяшчэньнікам старшыня Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту зьвярнуўся да адпаведных урадовых уладаў з просьбаю аб абароне сьвяшчэньніка. Інтэрвэнцыя апошніх на столькі зьмягчыла жорсткае сэрца арх. Хвядоса, што ён ня толькі не пратэставаў ужо супроць гэтага сьвяшчэньніка, але пасьля гэтага яшчэ сказаў яму: „вы мне собственно, очень даже нравитесь."

Гэты сумны факт паказывае нам: 1) што арх. Хвядос ня прызнаючы загадаў вызначанага сьв. Сынодам арх, Александра, не падпарадкуецца Сьв. Сыноду, праз што ўносіць разбурэньне ў царкоўнае жыцьцё; 2) што цывільным прадстаўніком іншавернага ўраду прыходзіцца бараніць праваслаўнага сьвяшчэньніка ад зьдзекаў, нячуванае жорсткасьці і несправядлівасьці праваслаўнага Япіскапа.

Ці трэба шукаць больш яскраўнага прыкладу зьневажэньня сану архіяпіскапа і сьвяшчэньніка праз дзейнасьць і захаваньне арх. Хвядоса?

# Справа Эпархіяльнага складу.

Спэцыяльная камісія ў складзе трох асобаў рэвізавала дзейнасьць б. Віленскага Эпархіяльнага Складу і ўстанавіла, што за час ліквідацыі складу сябрам Кансысторыі прат. Кушнёвым зроблены грашовы „недахоп" даходзячы ня менш 3000 зл. Устаноўлена таксама, што ня ўсе паступаючыя ў касу склада грошы запісываліся прат. Кушнёвым на прыход. Апрача выкрытага „недахопу" грашыма, нехапае яшчэ 93 абразы, 40 кіётаў, 4 фанары і адна дарахранільніца.

Свайго часу арх. Хвядос сваёй рэзалюцыяй затушаваў было гэтую справу, напісаўшы, што ён дзейнасьць Кушнёва знаходзіць... правідловай і забараніў таму для духавенства Эпархіі справу гэную парушаць.

На шчасьце забарона арх. Хвядоса не мае значаньня для ўладаў судовых. Апошнія нядаўна дапрашывалі сяброў рэвізыйнае камісыі нанова, і гэтыя ізноў пацьвердзілі аб вышэй успомненых „недахопах" і ўся справа па ліквідацыі складу цяпер трапіла ў рукі пракуратара. У гэтай-жа справе 22 і 24 верасьня сябры рэвізыйнае Камісыі былі дапрошаны судзьдзёю сьледчым.

# Крык маладое душы.

Як добра жывецца гадунцом і будучым пастырам бел. Народу ў Віл. Дух. Сэмінарыі пад кіраўніцтвам рэкт. Тучэмскага, хай скажа гэтая выпіска з ліста вучня скончыўшага Віл. Дух. Сэмінарыю на імя яе рэктара: „Айцец Рэктар! Даведаўшыся, што Вы хутка выязджаеце, сьпяшу зьвярнуць свой доўг у сэмінарыю (кніжкі і 25 зл) хай на гэтым скончацца мае парахункі з сэмінарыяй!.. жадаю Вам быць на новым месцы добрым рэктарам, жадаю, каб Вашыя адносіны да вучачыхся былі адносінамі добрага бацькі да дзяцей. Жадаю, каб Вы мелі куды менш чорстваcьці і сухога пэдантызму, а балей сардэчнасьці — толькі тады вас будуць паважаць і любіць, калі будзеце мець **хоць каплю чалавечнасьці і міласэрднасьці да ахвяраў (к жертвам!) гэтак даверчы ва ўвераным Вам.** Адносна вас я німаю ніякіх пачуцьцяў. Вы для мяне „нравственно“ безьразлічны. Меўбы можа быць больш цяплейшыя пачуцьці, у апошнім выпадку хоць як да пэдагога і выхаваўцы, але іх забіла ва мне Ваша чорстваcьць і драбязговасьць. Ды і чы-ж Вас могуць цікавіць пачуцьці гэткага рабака, як я? Ціж ж не праўда? Бывайце.“

Хоць прозьвішча не падаемо, аднак зацікаўленым у гэтым, ліст той заўсяды можам паказаць. Гэты разьвітальны ліст зьяўляецца крыкам задушанае маладое душы, адначасна забойчым для Тучэмскага як рэктара і духаўніка, дакумэнтам. Ці-ж трэба тады дзівіцца, што вучні ў свайго рэктара патрапяць кідаць крэсламі, як гэта было з Тучэмскім. А ўспомнім сьв. Мысьліўца, дзіякана Буку, вучняў Філіповіча, Гурыновіча і шмат іншых, і сапраўды жудасна робіцца бачучы гэтыя „жертвы“ праваслаўнага сьвяшчэньніка. Калі-ж і хто нарэшце гэтаму ўсяму палажа мяжу?

# Заплата.

23 верасьня г. г. звольнены загадам арх. Хвядоса з Віл. Кансысторыі яе ўрадовец Д. Бохан. Звальненьне гэтае знаходзіцца ў цеснай сувязі з тым, што Бохан раней востра выступаўшый у прэсе супроць Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту нарэшце абурыўся і сам супроць дзеяльнасьці сучасных сяброў Кансысторыі а падчас судовае расправы 22 верасьня над студ. С. Сарокай прызнаўся згодна з праўдай да таго, што было не накарысьць некаторым сябром Віл. Кансысторыі.

Такім чынам Бохан, які з такім запалам бараніў арх. Хвядоса і Кансысторыю ў „Нашей Жизни,“ ладзіў Хвядосаўскія юбілеі выкінуты апошнім на вуліцу за праўдзівае асьведчаньне на судзе. Зразумела Бохан быў прымушаны казаць праўду на судзе, бо-ж неправідловае паказаньне на ім нечага сьведкай пагражае яму за гэта вастрогам.

Звальненьне-жа Бохана з Кансысторыі паказывае, што каб унікнуць яго ён павінен быў, супроць сумленьня і абяцаньня перад судом гаварыць праўду, маніць і гатовым быць сесьці ў вастрог, але не чапаць Хвядосаўскага прыяцеля Кушнёва і іншых. Становіцца проста жудасна ад пануючых у сяброў Віл. Эпарх. Кіраўніцтва звычаяў і настрояў.

Цікава тое, што Бохан у свой час зложыў арх. Хвядосу даклад, у якім паведамляе аб тым, што Кушнёў прапанаваў яму, Бохану, як сябру рэвізыйнае камісыі б. Эпарх. Складу 3000 зл. каб ён пры праводжаньні рэвізыі ліквідацыі Складу знайшоў усё ў парадку і ніякіх надужыцьцяў ня сьцвердзіў. і дзіўна вось, куды дзеўся гэты даклад, бо аб ім абсалютна нічога нячутно. Цікава, які зроблены з яго ўжытак!

# ХРОНІКА.

У пачатку жніўня с. г. прыяжджаў ў Вільню арх. Александр па даручэньню Сьв. Сыноду. Владыка Александр прывёз з сабой пастановы Сьв. Сыноду, у сілу якіх вядомаму беларускаму барацьбіту за Праваслаўе сьв. Александру Каўшу былі зьвернуты, як падавала аб гэтым расейская і польская прэса, усе правы, якія адабрала ад яго Віл. Кансысторыя. На аўдыенцыі ў арх. Александра былі прыняты прадстаўнікі Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту, Бел.-Прав. Групы Студэнтаў У.С.Б. і наагул бел. прав. грамадзянства, якія злажылі на яго рукі адпаведныя мэмор'ялы.

За апошвія часы ідэя беларусізацыі Царквы пачала ахапляць што раз шырэйшыя кругі бел. грамадзянства, а бел. студ. моладзь утварыла нават адумысную групу пад наз. „Беларуска - Праваслаўная Група Студэнтаў Унівэрсытэту Ст. Баторага". У пераслаяым студ. С. Сароке лісьце група гэтая справу ідэі беларусізацыі Царквы ўважае за справу рэлігійна-нацыянальную і ўсе варожыя выступленьні супроць яе ўважае за выступленьні супроць бел. прав. моладзі.

У першыя тры дні верасьня адбылася ў Пінску конфэрэнцыя епіскапаў і сьвяшчэньнікаў усходняга і лацінскага абрадаў у справе вуніі. Былі там прысутны таксама і беларусы. І вось чацьверты пункт вынясенай рэзалюцыі на гэтай конфэрэнцыі кажа, што „...каб у навучаньні Слова Божага ў каталіцкіх сьвятынях усходняга абраду, была ўжывана бацькаўская мова верных, а іменна для Палякоў — польская, для Украінцаў — украінская, для Беларусаў — беларуская, для Расейцаў — расейская." Пункт гэты зьяўляецца вельмі і вельмі паказальным, бо нарэшце зразумелася тое, што пара было зразумець даўно і што ў нас яшчэ дагэтуль незразумелася.

У апошнюю хвіліну даведываемся, што бел. прав. моладзь не належачая да Бел. Прав. Групы Студ. У. С. Б. самастойна утварыла Хаўрус Бел.-Праваслаўнай Моладзі, якая хоць і будзе супрацоўнічаць у цесным кантакце з моладзьдзю студэнскай, аднак у сваіх выступленьнях будзе больш радыкльнай і рашучай. Такім чынам як бачым да барацьбы заІсьціны Хрыстовы приступае моладзь і нястудэнская, што трэба горача прывітаць.

22 верасня с. г. адбыўся суд над студ. С. Сарокай, якога судзілі ў Віл. Акружным Судзе з 154 арт. К. К. Студ. С. Сарока ў папярэднім нумары „Сьв. Беларусі" зьмясьціў ліст, у якім прызнаўся ў тым, што ён быў рэдактарам ведамых аднаднёвак і прасіў асобы чуючыяся несправядліва абражанымі ў гэтых аднаднёўках пацягнуць яго да судовай адказнасьці, бо інакш усе будуць уважаць гэтыя асобы за такія, якімі яны прадстаўлены ў аднаднёўках.

Сябры Віл. Кансысторыі, якіх аднаднёўкі найбольш закранулі пацягнулі студ. С. Сароку не за асабістую іх абразу, а быццам за зьневажэньне Кансысторыі як урадавай установы. А як факты абразы знаходзячыяся ў адн. „Проч з ліхазельлем!" сябры гэтыя ў акце абвінавачаньня падалі два: „уціск бел. духавенства" і „браў хабары" адносна сьв. Кушнёва, хоць у тэй аднаднёўцы былі такія рэчы, што чытаючы яе прыходзілася хочучы няхочучы чырванець. За гэта яго ніхто да адказнасьці ня цягнуў. Былі праўда ў акце абвінавачаньня яшчэ два пункты, але як ня згодныя з сапраўднасьцю напісанага ў аднаднёўцы і ня добра пераложаныя, суд іх адкінуў. Такім чынам судзілі студ. С. Сароку за ўспомненыя два факты з 154 арт. К. К. за зьневажаньне ўстановы, а гэта пагражала абвінавачанаму годам вастрогу.

Ужо з самага раньня саля Акружнога Суду пачала перапаўняцца бел. грамадзянствам і моладзьдзю, якая папрыходзіла з букетамі красак. Пры вя-

лічэзным перапаўненьні салі распачалася судовая расправа, аднак на прапанову адв. Андрэява, які бараніў сяброў Кансысторыі, суд загадаў зачыніць дзьверы і ўсе прысутныя павінны былі перайсьці ў калідоры. Больш дзесятка прадстаўнікоў ад розных газэт змушаны былі таксама пакінуць салю! І вось блізу чатыры гадзіны адбывалася судовая расправа і ўжо толькі сам прысуд быў прачытаны ў прысутнасьці зацікаўленых у біткам перапоўненай салі. Студ. С. Сароку прысудзілі на адзін месяц арышту з завешаньнем гэтае кары на працяг двух гадоў. Пасьля прачытаньня такога, фактычна апраўдываючага студ. С. Сароку, прыгавару, усе прысутныя горача і дэманстрацыйна пачалі яго вітаць даслоўна засыпываючы кветкамі.

Гэты надзвычай лёгкі і мудры прыгавар над студ. С. Сарокай такім чынам паказаў усім праўдзівасьць пададзенага ў аднадНёўцы, бо-ж калі-б гэта ня было даведзена, то 154 арт. К. К. пагражае годам вастрогу, а тут абвінавачаны атрымаў месяц арышту, ды і то з „завешаньнем". Ці інакш кажучы пакараны толькі за непрызваіты тон аднаднёўкі. Словам праўда і справядлівасьць Суда перамагла! Што цяпер на гэта адкажуць сябры Віл. Кансысторыі, вельмі цікава? А мо здабудуцца на адвагу і пададуць студ. С. Сароку ў суд за другую яшчэ аднаднёўку! Гэты крок іх трэба было-бы прывітаць, бо-ж сапраўды нарэшце нехта павінен аканчальна зрэгабілітавацца, бо-ж гэтага дамагаецца ўсьцяж самаахвярна і студ. С. Сарока і трэба думаць гэтага-ж хочуць і сябры Віл. Кансысторыі і той хто акажацца віноўным мусіць панесьці раз належную кару.

3 кастрычніка с. г. Бел.-Прав. Група студэнтаў У. С. Б. пераслала мітрапаліту Дзіанісу мэмор'ял, у якім ветліва і здэцыдавана просіць Блажэньнейшага Владыку ўнікнуць у нутраное жыцьцё Віленскае Эпархіі і на тое, што ў ёй творыцца належна зарэагаваць, а гэта праз здаваленьне шматлікіх просьбаў Ц. Б. Пр. Камітэту і просьбаў студ. С. Сарокі, як выразіцеля думкі Бел.-Прав. Групы Студ. У. С. Б.

У Дубне на Валыні з пачаткам гэтага школьнага году адчынілася Вуніяцкая Дух. Сэмінарыя, рэктарам якое назначаны вядомы беларус вун. сьв. Дуброўскі. Але як падаюць газэты, дык быццам мова выкладовая мае быць не беларуская ці ўкраінская а расейская, а першыя дзьве толькі як прадметы. Калі гэта праўда, дык згары можна казаць, што на справу сэмінарыі гэтае трэба паставіць крыжык. Бо так і беларусы, як і ўкраінцы русафільства і расейшчыны маюць і так „вышэй вушэй".

15 лістапада с. г. адбудзецца ў Вільні сьвяткаваньне адзінаццатых угодкаў Слуцкага паўстаньня. Дзеля належна-ўрачыстага сьвяткаваньня ўгодкаў гэтага паўстаньня, якое ў 1920 годзе дзесяць тысячаў слуцчакоў паднялі, ахвярна трупамі ўсьцілаючы свае палеткі, супроць навалы ворагаў Бел. Народу, утварыўся адумысны Камітэт.

Абавязкам кожнага, у кім бьецца беларускае сэрца, каму ахвяры Случчыны за свабоду зьяўляюцца дарагімі, павінен дапамагчы матэр'яльна стварыўшамуся Камітэту, каб гэты мог належна ўшанаваць нашых багатыроў, бязстрашна злажыўшых свае сілы і жыцьцё за Беларускі Народ і Бацькаўшчыну.

Ахвяры можна прысылаць на адрас старшыні Юбілейнага Камітэту — Wilno, Młynowa № 2—39 Sergjusz Busieł.

У канцы кастрычніка г. г. Бел. Прав. Група Студ. У. С. Б. у лучнасьці з Хаўрусом Бел.-Прав. Моладзі мае злажыць у Гэнэральную Прокураторыю адпаведны акт, абапёрты на Кодэксе Карным і Тымчасовых Правілах Царкоўных, з падрабязным прадстаўленьнем фактаў і сьведкаў гэтага у справе, нашумеўшай сваёй амаль фантастычнасьцю, дзейнасьці некаторых сяброў. Моладзь факт злажэньня гэтага акту, тлумачыць як дазволеную канечнасьць, прадбачаную адпаведным, Законамі, выступленьня у абароне сваіх рэлігійных пачуцьцяў і публічнае маральнасьці. Сабраныя матэр'ялы для гэтага акту, адпаведна апрацаваныя і абапёртыя адным з віленск. праф. права, робяць уражаньне нейкай сапраўды фантастычнай байкі аб служэньні злу.

✍ Як ходзяць чуткі, вядомы ўсім сваім служэньнем на „пользу“ Праваслаў'я, сьв. Кушнёў быццам атрымаў загад неадкладна падацца ў дымісыю. Чалавек гэты, знаходзячыся ў агоніі свайго ўладарства ў апошняю хвіліну яшчэ робіць усе высілкі, каб захаваць свае становішча. Гэты надзвычай шчасьлівы чалавек яшчэ нават і цяпер здолеў пацягнуць за сабой частку „бѣлорусского“ вучыцельства і вельмі яму прыхільных атэістаў і масонаў. Трэба быць перакананым, што кожнае зладзеяньне мае свае консэквэнцыі і вынікі калі не цяпер дык у будучыне. Людзкасьць, апіраючыся на самазахаваўчы інстынкт, паралізуючы консэквэнцыі і вынікі даннага злодзеяньня, у першую чаргу зьвяртае увагу на асобу ўчыніўшую злодзеяньне, каб адпаведным застасаваньнем адносна яе пэўных праўных нормаў, асобу гэтую ўнешкадлівіць і што болей унешкадлівеньне гэтае паставіць як жывы прыклад папярэджаньня другім аб консэквэтнасьці і адказнасьці за коалізыю з правам. У даным выпадку злодзеяньне датычыла нас беларусаў і таму мы ў адпаведнай хвіліне будзем змушаны злодзеяньне гэтае самі заквалiфікоўваць пад адпаведныя нормы права. Нам здаецца, парушанае злодзеяньне адзінак нам чужых, на нашу некарысьць будзе разглядацца з асаблівым і ўважлівым падыходам.

Яшчэ-ж больш уважліва будзе разглядацца намі, калісь у іншых абставінах, злодзеяньне людзей, прыкрыўшыхся беларускасьцю дзеля яе прафанацыі, а таксама людзей, якія з нізкіх і брудных пабудак у сілу свайго беларускага паходжаньня, справаю беларускай таргавалі, выслугоўваваліся ворагам Нашага народу.

## Асабістае.

✍ 30 верасьня с. г. у Вільві ў Пятніцкай Царкве адбыўся шлюб сяброўкі Прэзыдыюму Цэнтральнага Бел. Прав. Камітэту гр. Веры Лукашык. Шлюб даваў вядомы барацьбіт за Царкву сьв. Коўш пад сьпеў хору вядомага кампозытара і дырыгента гр. Гр. Шырмы.

✍ 24 лістапада с. г. старшыня Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту сьвяткуе семдзесяцьгодзьдзе свайго жыцьця і дваццаць пять гадоў працы на ніве грамадзка-культурнай. Дзеля належнага адсьвяткаваньня гэных юбілеяў стварыўся адумысны юбілейны Камітэт.

# Адказы.

Сьв. сьв. І. М., К. Р., С. М. дзякуем за пажаданьні. Не радзім Вам вельмі верыць у прыхільнасьць людзей прыхільнасьць Вам гэтую ня выявіўшым. Асоба, аб якой пытаеце стала пражывае і будзе жыць у Вільні; Вашыя прывітаньні ёй перадалі і атрымалі для Вас падзяку.

Сьв. Белёруссу. Мы ня маем права квэст'янаваць Вашу беларускасьць, тым больш, што калі Вы „тутэйшы“ па паходжаньню; чуецеся беларусам, то хоць нават ня ўмееце гаварыць літэратурна па беларуску, то гэта яшчэ ня повад, каб сумнявацца і саромiцца сваёй беларускасьці. За Вашаю грамадзка адважную шчырасьць дзякуем. Артыкул Ваш ня зьмесьцім бо за востры.

Барсук Пётра. Неадкладна і зараз-жа прышлеце нам.

Зарэчанцам. Аднаднёўкі можна атрымаць у студ. С. Сарокі, Wilno, ul. Borowa 7ª — 1.

Псал. Р. і Х. Дзяцей можаце скіраваць або ў Вілен. Белар. Гімназію (Ostrobramska 9), або ў Віл. Дзяржаўную Белар. Вучыцел. Сэмінарыю (Św. Anny 2).

Сьв. з Палесься. У гэтым мы ня сумляваемся. Пішыце часьцей. Кніжкі выслалі.

„Веруючай Якубісе“. Па першае, што сьвяшчэньнік той вам сказаў ня праўду, а па другое да Звыданьня аднаднёвак сам прызнаўся студ. С. Сорока і праўдзівасьць іх даказываў на судзе. А таму, хто кажа Вам, што Вы руская скажэце — мінулі часы, калі праваслаўнага гвалтам рабілі рускім.

Сьв. П. Б., „Старому“, І. Х., „Сумнаму“, Л. і М. П., Кам. Ляв., Дзяк. з вёскі. Атрымалі і дзякуем. Пасылаем.



Рэд. В. Смаленскі. Выд. Цэнтр. Беларускі Праваслаўны Камітэт